


ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# ЛІТАРАТУРА і МАСТАЦТВА

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР.

№ 34 (1568) | Нядзеля, 30 красавіка 1961 года | Цана 4 кап.

# ПРАЦА ДРУЖБА МІР

Вясна — цудоўная пара года, калі пад ласкавымі сонечнымі праменнямі абуджаецца ад зімовага сну прырода, наліваючыся сокамі цвіцення і росту.

З вясной параўноўвае чалавек маладосць свайго жыцця. У вобразе вясны ўяўляецца савецкім людзям наша квітнеючая Радзіма — першаадкрывальніца новага свету, свету камунізма — вясны чалавецтва.

Увесну святкуецца Першамай — дзень міжнароднай салідарнасці працоўных, дзень адзінства і братэрства рабочых усіх краін. Першае мая людзі свету з любасцю называюць святам вясны і маладосці, святам міру і працы.

У гэты дзень на ўсіх мовах, на ўсіх кантынентах гучыць:

— Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся! Няхай жыве мір і дружба паміж народамі!

Мільёны людзей выйдуць заўтра на веснавыя вуліцы і плошчы, на першамайскія мітынгі і дэманстрацыі. Магутна прагучыць народны голас у абарону міру, супраць імперыялістычных падпальшчыкаў вайны, за дэмакратыю і сацыялізм, за неадкладнае прадастаўленне поўнай незалежнасці і свабоды ўсім каланіяльным краінам і народам.

Радасна і ўрачыста адзначаць Першае мая працоўныя Савецкай краіны. Яны сустракаюць свята ў абстаноўцы вялікага палітычнага і працоўнага ўздыму, выкліканага рашэннямі студзеньскага Пленума ЦК КПСС і падрыхтоўкай да XXII з'езду роднай партыі. З краю ў край, на ўсёй неабдымнай савецкай зямлі кіпіць стваральная праца. Рабочыя, калгаснікі, інтэлігенцыя — усе савецкія людзі, з'яднаныя высокай мэтай пабудовы камунізма ў нашай краіне, працуюць з натхненнем, змагаюцца за датэрміновае выкананне сямігодкі.

Стваральная праца народа дае вялікі плён. Гіганцкі прагрэс Савецкага Саюза, прагрэс палітычны, эканамічны і культурны, здзіўляе ўвесь свет. За гады Савецкай улады валавая прадукцыя нашай прамысловасці павялічылася ў 45 разоў. Мы цяпер выпускаем прамысловай прадукцыі больш, чым такія буйныя краіны Еўропы, як Англія, Францыя і Заходняя Германія, разам узятыя.

Найярчэйшым сведчаннем нашых выдатных дасягненняў ва ўсіх сферах чалавечай дзейнасці з'яўляецца першы ў гісторыі палёт у космас карабля-спадарожніка «Усход» з чалавекам на борце. Гэтая выдатная перамога ў асваенні космасу азарае незвычайным святлом наша сёлетняе Першамайскае свята. Подзвіг і нязгасная слава Юрыя Гагарына — гэта подзвіг і слава савецкага народа, які пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі ўпэўнена заваёўвае новыя і новыя вышыні ў развіцці эканомікі і культуры сваёй краіны, у будаўніцтве камунізма.

Ажыццяўленне сямігадовага плана з'яўляецца важнейшым этапам у стварэнні матэрыяльна-тэхнічнай базы камунізма. Савецкія людзі ведаюць гэта і настойліва здзяйсняюць велічныя задачы сямігодкі. Цвёрдымі, упэўненымі крокамі ідзе наперад наша краіна. Вынікі двух год сямігодкі гавораць пра тое, што яе заданні будуць не толькі выкананы, але і перавыкананы. Добра пачаты і трэці год сямігодкі. Пра гэта сведчаць апублікаваныя днямі ў друку статыстычныя дадзеныя аб выніках выканання Дзяржаўнага плана прамысловасцю СССР і Беларускай ССР у першым квартале 1961 года. Гэта радасныя вынікі. Дасягнуты новыя буйныя поспехі ва ўсіх галінах прамысловасці, і найперш у цяжкай індустрыі. План выпуску валавой прадукцыі прамысловасцю СССР выканан на 102,5 працэнта. У параўнанні з першым кварталам 1960 года выпуск прамысловай прадукцыі ўзрос амаль на 9 працэнтаў. Паспяхова справілася з заданнямі і прамысловасць нашай рэспублікі. Слаўны савецкі рабочы клас зрабіў дастойны перадмайскі падарунак Радзіме.

Вялікімі справамі жыве зараз калгасная і саўгасная вёска. Шырокім фронтам разгортваецца бітва за багаты ўраджай, за далейшы рост жывёлагадоўлі. Рашэнні студзеньскага Пленума ЦК КПСС вызначылі канкрэтную праграму новага ўздыму ўсёй сельскагаспадарчай вытворчасці, і працаўнікі вёскі настойліва змагаюцца за ажыццяўленне гэтай праграмы.

Барацьба за выкананне сямігодкі, барацьба за пабудову камунізма ў нашай краіне — гэта кроўная справа кожнага савецкага чалавека, на якім бы ўчастку ён ні працаваў. Актыўны ўдзел у гэтай барацьбе прымаюць дзеячы літаратуры і мастацтва, каго партыя называе сваімі вернымі памочнікамі ў справе камуністычнага выхавання мас, фармавання новага чалавека.

Магутным поступам ідзе савецкі народ па шляху да камунізма. З гордасцю за свае вялікія здзяйсненні, з радасцю за свой шчаслівы лёс усклікаюць савецкія людзі:

— Няхай жыве камунізм — светлая будучыня ўсяго чалавецтва!

Так, камунізму належыць будучыня. Гісторыя даўно вынесла свой прысуд капіталу. Імперыялістычная сістэма трухлее, і няма такіх сіл, якія б маглі спыніць заканамерны працэс яе гібелі. На шлях, адкрыты нашым народам у векапомным Кастрычніку 1917 года, на шлях сацыялізма і камунізма сёння сталі ўжо многія краіны. Стварылася сусветная сістэма сацыялізма—магутная садружнасць свабодных і суверэнных народаў, моцная сваёй маладосцю, сваёй верай у правільнасць выбранага шляху, сваім сацыялістычным адзінствам і салідарнасцю. Гэтай сістэме расці і квітнець!

За пасляваенны час дзесяткі краін Азіі і Афрыкі з насельніцтвам у паўтара мільярда чалавек назаўсёды пакончылі з каланіялізмам, з іншаземным заняволеннем. Перамога народнай рэвалюцыі на Кубе сведчыць, што вялікі працэс абуджэння народаў пачаўся і ў Лацінскай Амерыцы. Крочыць вясна — вясна чалавецтва, новымі сокамі наліваецца нацыянальна-вызваленчы рух. Мацнее адзінства дзеянняў рабочага класа і працоўных усіх краін у барацьбе за мір, нацыянальную незалежнасць, дэмакратыю і сацыялізм.

Ідзе Першамай 1961 года, і на ўсіх мовах, на ўсіх кантынентах гучыць:

— Мір і дружба!

— Няхай жыве 1 Мая!

## Творы пра Леніна

У зале Саюза кампазітараў БССР адбыўся вечар беларускай камернай музыкі. Праграма яго ў асноўным складалася з вакальных твораў, прысвечаных Ул. І. Леніну.

У канцэрце прагучалі песні: «Жывы Ленін» А. Багатырова, «Там, дзе хадзіў калісьці Ленін» Я. Цікоцкага, «Нас вітае Ленін» І. Кузняцова, песня пра вялікага правадыра Ю. Семянякі і два ўрыўкі з вакальнага цыкла аб Леніне Я. Дзягцярыка. Выступілі салісты Г. Геніна, В. Чарнабаеў, В. Прышчапёнак і дуэт у складзе М. Шуманскага і В. Юневіча.

З інструментальных твораў былі выкананы першая частка санаты для віяланчэлі і фартэпіяна А. Багатырова (выканаўцы — М. Бергер, А. Стагорскі), а таксама саната для скрыпкі і фартэпіяна М. Русіна (выканаўцы — Л. Гарэлік і С. Талкачоў).

Антон БЯЛЕВІЧ

## Дзень добры Маю!

Сцежкай з бору, сцежкай з гаю,
Па пралесках, па траве
Май прыйшоў. Дзень добры Маю!
Ён даўно ў душы жыве —

З першым громам, з цеплынёю
Ды з расянасцю лугоў,
Ды з вясёлкай маладою,
Ды са звонам жаўрукоў;

З першай песняй салаўінай,
З цёплай, глёўкай баразной.
Май над роднаю краінай
Сцяг узняў вясёлы свой.

І калыша ён калоны,
І наперад ён заве.
Май ружовы, май зялёны
У душы маёй жыве.

## Я ступіў на бераг радасці

Найдан ВЫЛЧАЎ,
балгарскі паэт

Я не ведаю, вясна прывяла з сабою Першамай, ці сам ён прыйшоў, каб абвясціць вясну, але я адчуваю: яны ўжо тут. Яны з намі, я адчуваю гэта па паскораным руху машын, па задыханым бегу паяздоў, па нястомных руках тэкстыльшчыц і фрэзероўшчыкаў. Працоўныя людзі рыхтуюцца горда выйсці на вялікі Першамайскі парад. Будзе гучаць музыка, будуць развявацца сцягі, гучаць прывітанні. Так шчаслівыя людзі славяць сваё светлае свята, свята працы, і сустракаюць вясну.

А яна ідзе. Яна ўжо выйшла ў абуджанае поле і пасадзіла за руль трактарыста, каб вёў баразны ў бяскрайнюю далячынь. А каб не было яму сумна — яна прывяла птушак. І яны пяюць яму свае простыя адвечныя гімны, славяць яго шурпатыя рукі і блаславляюць яго салодкі хлеб. Краскі бягуць па ўзбочынах дарог, высыпаюць на сонечныя паляны і ўзлескі і светлым расквечаным чалом адвешваюць яму маўклівы паклон. Яму, працаўніку, які сее, каб жаць, які кідае ў зямлю насенне, каб сабраць хлеб.

Напэўна, такая радасная сёння і мая Радзіма — Балгарыя. Заплюшчыўшы вочы, бачу сіні хрыбет Балкан і серабрыстыя плёсы Янтры і Марыцы, узгоркі Плоўдзіва, бачу вясёлыя дымкі заводаў Габрава і Слівена. Блішчаць на вясновым сонцы піянерскія фанфары, на плошчу льюцца з высі сонечныя вадаспады, і з шумам узлятаюць галубы над белым маўзалеем Георгія Дзімітрова. Там чуюцца крокі рабочых шарэнгаў і лунае гордая песня стваральнай, мірнай працы.

Нядаўна дарогі прывялі мяне на бераг радасці: я перасек вялікую зямлю Саветаў, спыніў здзіўлены позірк на зіхатлівых купалах Васілія Блажэннага, чуў, як звоніць званіца Спаскай вежы, бачыў Юрыя Гагарына. Просты чалавек у звычайным афіцэрскім шынялі з шырокай рускай усмешкай, адказваў ён на прывітанні мнагатысячнага натоўпу і нібы гаварыў: зоры не так далёка, зоры будуць нашы. І новыя выбухі «ура», «брава» і «слава» каціліся над плошчай, якая бачыла столькі перамог, і новыя хвалі тысяч рук уздымаліся высока, нібы выпускалі ўгору птушак любві і ўдзячнасці. І тады, калі я загледзеўся на маладога маёра, мяне падхапіла і панесла хваля людской радасці, і мне здалося, што шчаслівая Масква вітае ясныя Крамлёўскія зоры, якія свяціліся ў вышыні...

О, гэтыя зоры, што далі нам хлеб і радасць, скрышылі кайданы і паднялі ўгору сцягі, пакарылі цаліну і цяпер імкнуцца ў касмічны прастор! Да іх скіраваны позіркі і абуджанай Афрыкі, і шчаслівай Балгарыі, і акружанай ворагамі Кубы. Пад святлом іх промняў будуць праходзіць вясёлыя атрады дзятвы; яшчэ будуць дыміцца выстралы, будзе трашчаць растаптанае цукровае трысцё, будзе ліцца кроў, але гэтае святло не пагасне. Ёсць зоры нязгасныя.

Зараз перад маім акном шуміць беларускі лес, над ім гудзе самалёт, птушкі спяваюць ранішнюю песню. Пяро бяжыць па белай паперы, і хочацца ад сэрца прывітаць і гэты лес, і раніцу, і птушак, прывітаць абуджаную прыроду і раднаснага чалавека, які заўтра выйдзе святкаваць такое мудрае свята — свята працы. Свята мазолістых далоней, стомленых на сяўбе рук, зморaных над чарцяжамі вачэй. І калі заўтра грымне «Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!», і нас панясуць хвалі магутнага «Абдыміцеся, мільёны!», ведаю, што старая зямля пачуе, як неспакойна пульсуе чырвоная кроў рабочага класа ўсёй зямлі, як набірае ён сілы, расце і раскрывае новыя гарызонты для новых палётаў і новых перамог. Пра гэта думаю я перад радасным днём Першамая, які сустракаю на братняй беларускай зямлі.

Алесь ЗВОНАК

## ПАРА МАЛАДОСЦІ

Напоўнены свет
Шапаценнем няўлоўным і музыкай гукаў,
І ласкавым ветрам, і сінню,
І шчэбетам рознагалосым,
І той, адраджэння зямнога
Няўяўнай салодкаю мукай,
Што з тонкіх сцяблінак узрасціць
Налітае сонцам калоссе.

Пануе вясна —
Наша мілая, наша пявучая госця —
Над парнай раллёю,
Кранутай празрыстай і лёгкай смугою,
Дзе творацца тайныя цуды жыцця.
Дзе пара маладосці
Вяртаецца зноў да цябе,
Напаўняючы кроў неспакоем.

Пануе вясна
Над усім і ва ўсім:
Над сагрэтаю глебай,
Над морам зялёным лясоў,
Над квадратамі новых кварталаў,
Вясна пакарэння зямным чалавекам
Глыбіннага неба,
Вясна пакарэння людзьмі
Некранутай цаліннае далі.

Ступае вясна па зямлі,
Непакоіць, трывожыць і будзіць,
Крывёю Лумумбы,
Алжыра ахвярамі,
Голасам Кастра:
Выпроствайце плечы,
Крышыце няволю,
Працоўныя людзі,—
Зямлю усцілаюць
Хай наймітаў косці
І ржавыя каскі!

Растаў красавік,
Палымнее усход
Светла-алай зарою,
Зямлі маладосць
Абуджаецца голасам трубным аркестраў,—
Дзень міру і дружбы,
Дзень Мая
Грыміць над прасторай зямною,
Магутным яднаннем,
Прадвеснікам мудрым
Вясны чалавецтва!

## Напярэдадні

**Вілейка.** На плошчы імя Ул. І. Леніна ва ўрачыстай абстаноўцы адбылося адкрыццё помніка вялікаму правадыру і заснавальніку Савецкай дзяржавы Уладзіміру Ільічу Леніну. Аўтары помніка — скульптары браты Л. і М. Роберманы, архітэктар — Н. Бурдзін.

**Гродна.** Майстры крышталю вядомага ў краіне шклозавода «Нёман» пачалі выпуск дзвюх ваз, прысвечаных гістарычнай падзеі — заваяванню космасу. На адной вазе — партрэт першага лётчыка-касманаўта Юрыя Гагарына. На другой — касмічны карабель «Усход» у момант запуску. Акрамя ваз, цэх фаянсу і фарфору пачаў выпуск дэкаратыўных талерак з партрэтам Ю. Гагарына і датай яго палёту.

**Мінск.** Беларускі дзяржаўны ансамбль танца выехаў у сталіцу нашай Радзімы — Маскву. У святочныя дні беларускія артысты выступяць з вялікімі канцэртамі на сцэне Крамлёўскага тэатра. Канцэрты ансамбля танца адбудуцца таксама ў зале імя Чайкоўскага і ў Дзяржаўным універсітэце імя Ламаносава.

**Барысаў.** Галоўны інжынер фабрыкі піяніна А. Серпікаў паведаміў:

— У вытворчасці знаходзіцца піяніна «Беларусь-2». Гэта добры інструмент, які заваяваў аўтарытэт не толькі ў беларускіх майстроў музыкі. Напярэдадні свята мы адправілі вялікія партыі піяніна ў Расійскую Федэрацыю, Латвію, Эстонію, Малдавію, Казахстан, Грузію. Некалькі дзён назад узор піяніна «Беларусь-2» адпраўлены ў Маскву на Усесаюзную выстаўку дасягненняў народнай гаспадаркі. У бліжэйшы час пачнем выпуск піяніна «Беларусь-4».

## ЦУДОЎНА!..

**На гастролях у Венгерскай Народнай Рэспубліцы знаходзіцца Беларускі дзяржаўны ансамбль песні і танца пад кіраўніцтвам Г. Цітовіча. Як праходзяць гастролі, дзе цяпер беларускія артысты?**

**Учора наш карэспандэнт пазваніў у Будапешт у Інстытут культурных сувязей з замежнымі краінамі. Да тэлефона падышоў рэферэнт Шандар Содзі. Ён добра ведае рускую мову і адразу адказвае на ўсе пытанні.**

**КАРЭСПАНДЭНТ: Якія ўражанні ад канцэртаў беларускіх артыстаў?**

**ШАНДАР СОДЗІ: Цудоўна! Мы вельмі задаволены прыездам таленавітага калектыву Беларусі. Ён прывёз сапраўднае мастацтва, хвалюючае, праўдзівае. Адбыліся першыя канцэрты. Аб поспеху беларускіх гасцей, аб іх высокім майстэрстве пісалі ўсе газеты, у тым ліку цэнтральная партыйная газета «Непсабадшаг».**

**КАРЭСПАНДЭНТ: Дзе будуць выступаць артысты ў дні Першамая?**

**ШАНДАР СОДЗІ: Сёння з вялікай святочнай праграмай артысты выступаюць у Палацы культуры Будапешта. Адбудуцца канцэрты ў буйнейшых гарадах краіны.**

**КАРЭСПАНДЭНТ: Як сустракаюць свята ў Венгрыі?**

**ШАНДАР СОДЗІ: Венгрыя ў святочным убранні. На заводах і фабрыках чытаюцца лекцыі аб міжнародным свяце, праводзяцца гутаркі. Працоўныя рыхтуюцца да дэманстрацыі. Просім перадаць шчырае першамайскае прывітанне чытачам газеты «Літаратура і мастацтва» ад супрацоўнікаў Інстытута культурных сувязей. Мы ўпэўнены, што дружба венграў і беларусаў будзе пашырацца і мацнець.**




—Мой мілы таварыш,
мой лётчык,
Вазьмі ты з сабою мяне!

Мал. Л. ЗАМАХА

**Героі нашых дзён**

# ЧАЛАВЕК ДЛЯ ЛЮДЗЕЙ

Хораша цяпер у вёсцы: маладымі лісточкамі пакрыліся дрэвы, зялёны пушысты дыван расцілаецца на палях азіміны. Маладым, свежым і нечым ласкавым павявае ад гэтых палёў і ад празрыста-блакітнага, залітага сонцам неба, дзе высока-высока ў паветры трапечуць, заліваючыся песняй, жаўрукі.

Вясна! Шмат у гэтыя дні працы ў калгаснікаў. Толькі паспявай упраўляцца. І таму рана ўстаюць цяпер у вёсцы і позна кладуцца спаць.

Але больш за ўсё клопату, вядома, у старшыні.

У гэтыя веснавыя дні мне давялося пабываць у калгасе «Новы свет» Капыльскага раёна, дзе ўпершыню быў я гадоў восем назад.

Старшыню калгаса Сцяпана Сцяпанавіча Кандыбовіча я сустрэў на будоўлі міжкалгаснай бальніцы. Ён вельмі змяніўся. Гады яшчэ глыбей акрэслілі зморшчыны на яго твары. Валасы на галаве і нават бровы зусім пабялелі. І толькі вочы ранейшыя—блакітныя, вясёлыя. І ўвесь ён такі ж рухавы, імклівы, неспакойны.

— Так, даўно мы не сустракаліся, — сказаў ён задуменна.

— А што новага ў вас за гэтыя гады? — спытаўся я.

— Будуемся ўсё, расцём. У той год, калі ў нас былі, у Русаках кароўнік новы закладвалі. Памятаеце, на чыстым полі? А цяпер там цэлы жывёлагадоўчы гарадок.

Ён памаўчаў крыху, відаць, збіраючыся з думкамі, а потым з незатоеным гонарам у голасе гаварыў далей:

— У Старыцы новы круглы свінарнік пабудавалі, гараж, рамонтную майстэрню. У Андросаўшчыне — клуб, лазню, гумно. У нас, дарэчы, клуб і лазня ёсць у кожнай брыгадзе: восем брыгад, восем клубаў і ў кожным тэлевізар. У пяцьдзесят дзевятым далучыўся да нас суседні калгас імя Чапаева. Цяпер і там вядзём будаўніцтва — цагляны кароўнік заклалі. На ўсіх фермах — водаправод.

— А вунь там, за вёскаю, каля лесу, бачыце, бялее будынак? — Сцяпан Сцяпанавіч паказаў у бок Русакоў. — Гэта наша школа-адзінаццацігодка. Калгас будаваў. Два гады ўжо ў ёй дзеці вучацца. Ёсць у іх і добры прысядзібны ўчастак для доследаў, і добра абсталяваныя сталярная і слясарная майстэрні.

Да будаўнічай пляцоўкі падкаціла машына з бутавым каменем для фундамента. З кабіны выскачыў малады, з абветраным тварам мужчына.

— Віншую, таварышы! — крыкнуў ён на хаду. — Толькі што па радыё перадалі: інтэрвенты разгромлены, скінуты ў мора.

І ўсе зразумелі, што шафёр гаварыў пра інтэрвентаў на Кубе. Усе горача паціскалі яму руку.

Радасная вестка выклікала ў людзей добры настрой, нарадзіла шмат успамінаў.

Успомнілі, як два гады назад прыязджалі амерыканскія турысты. Дваццаць тры чалавекі. Хадзілі на фермы, глядзелі, здзіўляліся.

Потым сабраліся ў клубе. Сцяпан Кандыбовіч расказаў ім пра калгас.

Гасцей цікавіла:

— Якім чынам вы, пажылы ўжо чалавек, кіруеце такой вялікай гаспадаркай?

— Вы аграном, заатэхнік? Якая ў вас адукацыя?

— Як гэта могуць трактары належаць усім калгаснікам?

— Колькі ў калгасе беспрацоўных?

Многія пытанні выклікалі вясёлы смех прысутных.

Сярод турыстаў быў адзін родам з суседняй вёскі Пятрылава — Яфім Сіняковіч. Паехаў ён у Амерыку яшчэ ў 1910 годзе. Здзіўляўся, бадай, больш за ўсіх. Уласным вачам не верыў. Не думаў, кажа, не марыў, што такое ўбачу.

Аказалася, у Сіняковіча ў Старыцы пляменнік па сястры — калгасны пастух Міхаіл Клямяневіч Каляда. Запрасіў ён дзядзьку-амерыканца ў госці. Жонка Каляды — Юлія Паўлаўна з такога выпадку начапіла ўсе свае ўзнагароды: ордэн Працоўнага Чырвонага Сцяга, медалі. Амерыканец пытаецца: хто гэтая жанчына з узнагародамі? А калгасны пастух, не міргнуўшы вокам, знаёміць дзядзьку са сваёй заслужанай жонкаю.

> **Пятро ПРЫХОДЗЬКА**
>
> **І ўсе убачылі народы...**
>
> **Як і раней — усё такое ж:**
> **Лугі, прастор шырокіх ніў,**
> **У садзе дрэўца маладое,**
> **Што ты нядаўна пасадзіў.**
>
> **Шпакі ўладкоўваюцца дбайна,**
> **Шуміць над рэчкаю сасна...**
> **Чаму ж такою незвычайнай**
> **Нам стала гэтая вясна?**
>
> **Бо светлым красавіцкім ранкам,**
> **Калі сады 'шчэ не цвілі,**
> **Раптоўна бліснула маланка**
> **У неба сіняе з зямлі, —**
>
> **Адважны сын краіны роднай**
> **Адкрыў дарогу у Сусвет.**
> **І ўсе убачылі народы**
> **Той мірнай бліскавіцы след.**

— О, вы, напэўна, вялікі начальнік у калгасе ці ў Саветах? — пацікавіўся Сіняковіч.

— А як жа, — адказала гаспадыня, — даяркай працую. Гэта вельмі ганаровая ў нас пасада.

Сустрэўся Сіняковіч і са старым знаёмым — Кузьмой Пракапеням. У юнацкія гады яны разам у памешчыка жывёлу пасвілі. Пракапеня — глуханямы ад роду, але вельмі кемлівы чалавек. Паказвае ён амерыканцу: маўляў, як жывеш? А той тлумачыць: працаваў і на шахтах, і на будаўніцтве дарог, а потым уладкаваўся нядрэнна — электрыкам. Два сыны ёсць, таксама працуюць. Але ў будучыні ўпэўненасці няма — беспрацоўе ў Амерыцы вялікае. І радзіма далёка, сумна без яе, нудна. Кузьма амерыканца ў госці паклікаў: паглядзі, як жыве калгасны конюх. Нядрэнна жыве: свой прасторны дом, сад у квецені, а на стале, што тваёй душы хочацца — ёсць і выпіць і закусіць.

На развітанне і госці і гаспадары пажадалі адзін аднаму мірнага шчаслівага жыцця.

— А што нам з імі дзяліць?— зазначыў Каляда. — Такія ж людзі, як і мы.

— Розныя людзі ў Амерыцы жывуць, Кузьма Іванавіч, — папраўіў яго Кандыбовіч.

— Капіталістам, вядома, вайна патрэбна, а навошта яна простаму амерыканцу? Вось няхай яны і будуюць жыццё па-нашаму,—не супакойваўся стары.

— А гэта іх справа. Прыйдзе час—зразумеюць і яны, як кубінцы зразумелі, на чыім баку праўда.

Мы доўга яшчэ гутарылі. Гаварылі пра Амерыку і амерыканцаў, пра Кубу і яе свабодалюбны народ, пра нашу цудоўную Радзіму, пра Юрыя Гагарына, пра партыю камуністаў.

— Вакол бальніцы пасадзім сад, —сказаў Сцяпан Сцяпанавіч,—разаб'ём парк. На будучы год пабудуем тут жылыя дамы для ўрачоў і абслугоўваючага персаналу. А яшчэ праз два—тры гады вунь у тым сасняку свой калгасны дом адпачынку адкрыем.

Кандыбовіч захапіўся марамі, вочы яго іскрыліся радасцю. І мне менавіта ў гэты момант стала зразумелай крыніца гэтай радасці: чалавек жыве для людзей, для іх шчасця, і ў гэтым увесь сэнс яго жыцця.

На другі дзень Кандыбовіч вырашыў паехаць у падшэфны калгас «Шлях камуны».

— Можа пачакалі б да канца сяўбы, Сцяпан Сцяпанавіч?—сказаў хтосьці з членаў праўлення.— Самі засеем, тады і дапамагаць будзем.

— Дапамагаць трэба своечасова,—адрэзаў Кандыбовіч.—А ў нас нічога страшнага не здарыцца, калі я на адзін дзень адлучуся. Аграном ёсць—яму сяўбою кіраваць. Заатэхнік на фермах мяне падменіць. А мы вось з Фросяй паглядзім, што ў нашых падшэфных робіцца, у чым ім наша дапамога патрэбна.

Лепшая свінарка калгаса Фрося Захарык, дзяўчына гадоў дваццаці, усміхнулася:

— Раскажу ім пра свае «сакрэты».

Старшыню калгаса «Шлях камуны» Івана Сцяпанавіча Лебедзя госці засталі ў калгаснай канцылярыі. Гаспадар — яшчэ малады, але ўжо лысаваты чалавек, былы інструктар райкома партыі, узрадаваўся, але дапамогі прасіць не спяшаўся.

— У насенні маеце патрэбу?— спытаў у яго Кандыбовіч.

— Збожжавыя ды і іншыя культуры ў нас ёсць, будзе чым засеяць палі. І насенне нядрэннае. А вось бульба не вельмі важная. Добра было б памяняць з вамі на гатунковую.

Пабывалі на палях і фермах. Шмат добрых парад даў Сцяпан Сцяпанавіч маладому і яшчэ нявопытнаму старшыні мясцовага калгаса. Гутарылі госці з даяркамі, свінаркамі, цялятніцамі. Параілі ім арганізаваць на ферме канвеер: свінаматак і парасят-сысункоў няхай даглядае адна свінарка, ад'ёмышаў—другая, а адкорм вядзе трэцяя. Палепшыць трэба ўлік выдаткавання кармоў, а то рацыёны ў «Шляху камуны» не горшыя, чым у «Новым свеце», а прырост свіней у некалькі разоў ніжэйшы.

— Свінні ў вас дрэнныя, іх трэба здаваць на мяса, — гаварыў Кандыбовіч,—а мы вам у замен дадзім галоў пяцьдзесят нашых чорна-стракатых. Цудоўная парода.

Госці параілі гаспадарам на месцы перапрацоўваць малочную прадукцыю: заўсёды будзе свежы здгон для цялят і парасят. Трэба таксама замяніць усе аднаконныя павозкі на пароконныя—гэта таксама вельмі выгадна: у два разы менш будзе занята людзей на транспартных работах.

Увечары прыехалі да новабудоўлі.

— Вось тут клуб будзе,—сказаў Лебедзь.—Да Кастрычніцкага свята думаем закончыць. Цэглу ўжо выкупілі, камень для фундамента падвезлі. Цяпер лес са Старыцкага лясніцтва трэба вывозіць. Добра было б на вашай пілараме яго распілаваць, Сцяпан Сцяпанавіч.

— Распілуем вам лес, распілуем,—ахвотна згаджаўся Кандыбовіч.—Толькі хутчэй клуб канчайце. Прыедзем да вас на свята, і каб абавязкова ў новы клуб.

На другі дзень Сцяпан Сцяпанавіч дакладваў членам праўлення пра вынікі сваёй паездкі. Усе яго прапановы па аказанню дапамогі падшэфнаму калгасу былі прыняты аднагалосна.

Сакратар калгаснай партарганізацыі Іван Коршук, ён жа і брыгадзір пятай брыгады, сказаў:

— Трэба было б тыдні на два, а то і на месяц камандзіраваць у падшэфны калгас нашага заатэхніка, на тыдзень-другі—бухгалтара, лепшых жывёлаводаў.

І гэтая прапанова была прынята. Дапамагчы адстаючым навесці парадак з заатэхнічным улікам, з нарміраваннем працы, перадаць ім свой вопыт у арганізацыі працы—хто гэта можа зрабіць лепш, чым спецыялісты і самі перадавікі?

А потым доўга спрачаліся аб увядзенні гаспадарчага разліку, гаварылі пра тое, што калгасу абавязкова патрэбен электразваршчык і газазваршчык, токар і аўтамеханік, што трэба рыхтаваць спецыялістаў з ліку тых калгаснікаў, якія закончылі дзесяцігодку.

Пра ход веснавой сяўбы даложыў аграном Звераў Усё ідзе па плану. Да Першага мая збожжавыя, лён і цукровыя буракі будуць пасеяны. Насенне кукурузы завезена. Кукурузныя сеялкі да сяўбы гатовы.

Сцяпан Сцяпанавіч уважліва выслухаў кожнага і моўчкі рабіў паметкі ў сваёй запісной кніжцы.

Я глядзеў на яго і думаў, якое добрае сэрца ў гэтага чалавека, як моцна трэба любіць людзей і жыццё, каб у яго пяцьдзесят восем год заставацца такім бадзёрым, энергічным і ўсяго сябе да рэшты аддаваць народу.

Мне здавалася, што такім пачуццём напоўнены і члены праўлення—камуністы, камсамольцы і беспартыйныя — яго аднадумцы, яго таварышы па рабоце.

І толькі жонка яго—Антаніна Андрэеўна, занепакоеная стомленым выглядам свайго мужа, бурчыць вечарамі:

— Ішоў бы ты ўжо, на пенсію Сцёпачка. І навошта табе столькі клопату ў твае гады? Навошта табе столькі будаўніцтва распачынаць? Хто цябе прымушае?

— Жыццё патрабуе, Тоня. Жыццё кліча!

**А. САШЫН.**

# Пра самае галоўнае

Два тыдні ездзілі мы разам з нашымі сябрамі-масквічамі па гарадах братняй Літвы, Латвіі і Эстоніі напярэдадні канферэнцыі тэатральных крытыкаў. І куды б мы ні заходзілі, дзе б ні сустракаліся з дзеячамі мастацтва і гледачамі Прыбалтыкі, усюды адчувалі пачуццё вялікай дружбы нашых народаў, якія ў адзінай сям'і будуюць камунізм. Шчырымі пачуццямі братняй дружбы была прасякнута і праца III міжрэспубліканскай тэатразнаўчай канферэнцыі, якая праходзіла ў Вільнюсе.

Канферэнцыя выклікала зацікаўленасць грамадскасці літоўскай сталіцы. У ёй, апрача тэатральных крытыкаў і музыказнаўцаў, удзельнічалі рэжысёры, мастакі, драматургі, акцёры. На канферэнцыі абмеркаваны надзённыя пытанні тэатральнага мастацтва.

І як бы ні захаплялі нас класічныя творы і гістарычныя п'есы, больш за ўсё ўздзейнічае на гледача спектакль, у якім на сцэну выходзяць нашы сучаснікі, занятыя вялікімі справамі свайго народа.

Сучаснасць — душа тэатра! Гэта лейтматыў усёй канферэнцыі. Сучаснасць спрыяла творчым узлётам і нашага беларускага тэатральнага мастацтва. Аб гэтым пераканальна гаварыў у сваім дакладзе кандыдат мастацтвазнаўства Ул. Няфёд.

Нашы гледачы чакаюць ад майстроў сцэны больш глыбокіх твораў на тэмы сучаснасці, смелых, яркіх вобразаў. Вельмі мала ў нас яшчэ спектакляў, прасякнутых рамантыкай працоўных спраў, подзвігаў, якія творыць савецкі чалавек. На сцэну трапляюць яшчэ так званыя «сярэднія», часам надуманыя п'есы. Іх героі не могуць сказаць новага слова гледачам.

Поспех сучаснага спектакля вызначае не толькі яго тэма, канфлікты, вобразы і характары, але і новыя сцэнічныя прыёмы, сучасны стыль. Аб гэтых пытаннях гаварыў у сваім дакладзе літоўскі крытык С. Сегал. Нават класічная п'еса можа гучаць па-сучаснаму, калі яна асветлена і прасякнута ідэямі нашага часу. Такім спектаклем з'яўляецца «Вайна і мір» у пастаноўцы рэжысёра Эдуарда Смілгіса. І наадварот «Іркуцкую гісторыю» А. Арбузава ў пастаноўцы Каўнаскага тэатра крытык лічыць банальнай, вырашанай у стылі меладрамы. Не знайшоў вернага ключа да п'есы «Провады белых начэй» рэжысёр Яунушан у Рыжскім акадэмічным тэатры драмы.

Цікавым было выступленне крытыка Г. Грыгарайціса аб працы над сучаснымі п'есамі літоўскіх тэатраў і супрацоўніцтве з драматургамі.

Эстонскія крытыкі Л. Тармас і Т.Ківіла расказалі аб нацыянальным рэпертуары сваіх тэатраў. Асаблівых поспехаў дасягнуў за пасляваенныя гады Эстонскі музычны тэатр, які паказаў 16 опер, балетаў і музычных камедый. Большасць з гэтых твораў прысвечана сучаснай тэме. Асобныя з іх ідуць з поспехам у тэатрах нашых братніх рэспублік і краін народнай дэмакратыі.

Літоўскі крытык В. Мажэйка сваё выступленне прысвяціў музычным тэатрам Літвы і Беларусі. Ён гаварыў, што лібрэта часта зніжае мастацкае гучанне спектакля. Цудоўная музыка оперы «Дачка» многа траціць з-за слабага тэксту, у якім адсутнічае сапраўдная драматургія і паэзія.

Аб мастацкім афармленні спектакляў гаварыў кандыдат мастацтвазнаўчых навук Г. Барышаў.

З цікавасцю было праслухана выступленне кандыдата філасофскіх навук музыказнаўцы А. Ладыгінай аб ролі музыкі ў драматычным спектаклі.

Канферэнцыя накіравала творчыя намаганні нашых крытыкаў і рэжысёраў, акцёраў і мастакоў на стварэнне новых сучасных спектакляў да XXII з'езду Камуністычнай партыі.

Вырашана правесці IV-ую міжрэспубліканскую канферэнцыю крытыкаў Прыбалтыйскіх рэспублік і Беларусі вясной 1962 года ў Мінску.

**Ул. СТЭЛЬМАХ.**
**Спец. карэспандэнт «Літаратуры і мастацтва».**




**Мінск.** Беларуская кінастудыя навукова-папулярных і хранікальна-дакументальных фільмаў закончыла работу па стварэнню караткаметражнай каляровай кінакарціны «Блакітная цаліна». У фільме расказваецца аб вадаёмах Беларускай ССР і іх багацьцях, аб развядзенні рыбы ў сажалках калгасаў і саўгасаў.

Аўтар сцэнарыя М. Бліснінаў, рэжысёр М. Гарбуноў, аператар В. Пужэвіч.

**Дзяржынск.** Працоўныя атрымалі новы будынак раённага Дома культуры. У ім ёсць глядзельная зала на 400 месц, шырокаэкранная кінаўстаноўка, прасторнае фае, пакоі для работы гурткоў.

**Пінск.** Артысты Народнага тэатра І. Жылевіч і Г. Сівохіна былі запрошаны ў Брэст для ўдзелу ў спектаклі «Кухарка», які паказвае Тэатр імя ЛКСМБ. У ролі Пчолкі з поспехам выступіў І. Жылевіч. Ролю Паўліны Хутарной удала выканала Г. Сівохіна. Калектыў тэатра і гледачы горача віталі артыстаў Народнага тэатра.

Дружба артыстаў тэатра з пінскім калектывам расце. Неўзабаве артысты Б. Уксусаў, Н. Ганчарэнка, С. Юркевіч выязджаюць у Пінск і будуць удзельнічаць у п'есе «Кухарка», якую паказвае гледачам Народны тэатр.

**„БУЛЬБА". Танцуюць гомельскія трыкатажніцы**

**ЯНКУ ЖУРБЕ—80 ГОД**

# У гасцях у паэта



Неяк мы з паэтам Сяргеем Грахоўскім знаходзіліся ў камандзіроўцы ў Полацку. Яшчэ выязджаючы туды, прыгадалі, што паблізу Полацка ў вёсцы жыве старэйшы наш беларускі паэт Янка Журба, і вырашылі абавязкова наведаць яго. Здарылася так, што дакладнага адраса паэта мы не захапілі, але навесці даведку на месцы аказалася няцяжка. У рэдакцыі гарадской газеты нам адразу ж расказалі, як дабрацца да той вёскі.

— Лепш пешкі прайсці напрамкі, чым далёка аб'язджаць на машыне, тут усяго тры кіламетры ад горада. Пройдзеце паўз Замкавую гару, потым праз Запалоцце ў поле, і там — першая ж вёска...

Быў яркі вясновы ранак. Садкі на ўскраіне горада аж кіпелі ў вясновай квецені. Мы мінулі Замкавую гару са славутым помнікам старажытнасці — Сафійскім саборам, прайшлі галоўнай вуліцай Запалоцця — старажытнага прыгарада Полацка з акуратнымі домікамі і садкамі на крутым беразе Дзвіны, і выйшлі ў поле. Дыхнула палявым прасторам, густымі пахамі зелені і першых красак.

Прасёлак віўся між пакатых узгоркаў і неглыбокіх яроў, што збягалі да Дзвіны. Прыгажуня Дзвіна цякла побач, то хаваючыся за кручай, то раскрываючыся ва ўсёй шырыні між адхонных аксамітназялёных берагоў. Воддаль за ёй сінеў лес.

Праз колькі часу за ўзгоркам паказалася і вёска, амаль уся з новых, пасляваенная будоўлі хат, з маладымі прысадамі ўздоўж вуліц, вішаннікам і яблынькамі на агародах. Пажылая кабета з вёдрамі ішла вулачкай ад калодзежа, і мы спыталіся ў яе:

— Не скажаце нам, дзе тут жыве Янка Журба?

— Як жа не скажу, — кабета паставіла вёдры і паказала рукой: — Вунь у тым радзе крайняя хата. Там вы і знойдзеце яго.

Стары сівабароды чалавек нешта майстраваў ля хлеўчука, калі мы зайшлі ў добра ўтрамбаваны, чыста падмецены двор. Мы прывіталіся і толькі хацелі спытаць, ці дома Іван Якаўлевіч, як ляпнулі дзверы ў хаце, і на ганку мы ўбачылі шчуплую, крыху прыгорбленую постаць у карычневым гарнітуры і ў ботах. Знаёмы нам здаўна, увесь у маршчынках, твар быў павернуты да нас і свяціўся цікаўнасцю:

— Хто гэта?

— Добры дзень, дзядзька Янка! — і мы назвалі свае прозвішчы.

— О-о, даражэнькія мае,—ажывіўся Іван Якаўлевіч. — Якім гэта цудам?.. Даўно з Мінска?.. Заходзьце, заходзьце! Калі ласка, прашу... — Лёгка абмацваючы рукамі клямку дзвярэй, вушак, сцяну ў сенцах, ён павёў нас у свой пакой. Калі нехта з нас памкнуўся падтрымаць яго пад руку, ён сказаў: — Не трэба, я сам... О, я прывык...

Невялікі пакой з акном на ўсход, у садок, быў заліты ранішнім сонцам. Стол, паліца з кнігамі і газетамі ў кутку, радыёпрыёмнік на ёй, засланы пакрывалам ложак, расчыненыя дзверы ў суседні, большы, такі ж сонечны пакой. Мы звярнулі ўвагу на чамаданы на табурэтцы, як бы падрыхтаваныя ў дарогу, і Іван Якаўлевіч сказаў, што і сапраўды збіраецца ў дарогу — ён атрымаў пуцёўку на два месяцы ў санаторый пад Віцебскам.

— Раніцай заўтра прыедзе па мяне машына з Полацка... Адпачну, падлячуся крыху, а потым можна брацца і за папраўку зроку. Урачы абяцаюць з часам зрабіць аперацыю і вярнуць зрок. Няхай і не такі, як быў некалі, але буду бачыць і — што важна — здолею яшчэ папрацаваць.

З Полацкам Янку Журбу звязваюць даўнія ніці. У гэтым горадзе ў самым пачатку нашага стагоддзя ён канчаў настаўніцкую семінарыю, і першы яго верш, надрукаваны ў 1909 годзе ў газеце «Наша ніва», называўся «На беразе Дзвіны». У Полацку і цяпер жыве яго сястра, але паэту жыць у горадзе, як ён кажа, цяжкавата, не тыя гады, яго цягне вёска, улонне прыроды, цішыня, хоць ён, вядома, не цураецца людзей, наадварот, — дзе б ні жыў, знаходзіць сяброў.

— Як жа вы, дзядзька Янка, тут жывяце? — распытваем мы.

— А што мне трэба больш... З гаспадарамі я ў дружбе, з суседзямі таксама. Праўда, днямі захварэла гаспадыня, адправілі яе ў бальніцу. Дык мы ўдвух са старым гаспадаром. Але прыходзіць, дзякаваць ёй, суседка — ежу прыгатуе, прыбярэ ў хаце... Увечары прысядзеш на прызбе, падыйдуць людзі — гаворка, весела...

Іван Якаўлевіч быў у добрым гуморы, бадзёры, гаваркі. Ён аказаўся ў курсе падзей у краіне і за мяжой і ў курсе літаратурных спраў, называў прозвішчы маладых беларускіх пісьменнікаў, новыя творы. Было дзіўна, як ён сачыў за ўсім гэтым, калі не меў магчымасці чытаць уласнымі вачыма газеты і кнігі.

— Навошта ж тады радыё! — адказаў на гэта Іван Якаўлевіч.— Па-другое, нада мной шэфствуюць студэнты Полацкага педвучылішча. Раз, а то і два на тыдзень наведваюцца да мяне, чытаюць пісьмы, што я атрымліваю, газеты, а іншы раз я ім і вершык прадыктую. Ды і мясцовыя школьнікі памагаюць мне...

Потым размова зайшла пра мінулае. Паэт успомніў далёкія гады свайго настаўніцтва, работу ў Народным камісарыяце асветы БССР у першыя гады пасля грамадзянскай вайны, выданне першага зборніка вершаў «Заранкі», сустрэчы з карыфеямі беларускай літаратуры Янкам Купалам і Якубам Коласам. Вялікі жыццёвы і творчы шлях ляжаў за плячыма гэтага чалавека, вядомага нам з вучнёўскіх год паэта і педагога.

— У мяне і цяпер шмат творчых задум, — з пачуццём гаварыў ён. — І я яшчэ напішу... Як жа не пісаць, калі столькі цікавых падзей і змен у жыцці краіны!

Нам было надзвычай прыемна бачыць Янку Журбу такім энергічным, жвавым. Калі мы развітваліся, ён праводзіў нас на вуліцу і, абапёршыся адной рукой на плот, другой махаў нам услед, наказваючы:

— Перадайце прывітанне ўсім маім знаёмым у Мінску. Падзякуйце ад майго імя за тое, што не забываюць мяне, старога.

**Тарас ХАДКЕВІЧ.**

# Шчырае віншаванне

*У сувязі з юбілеем Прэзідыум СП БССР паслаў Янку Журбе прывітанне, у якім гаворыцца:*

*ДАРАГІ ІВАН ЯКАЎЛЕВІЧ!*

*Мы — малодшыя сябры Вашы і паплечнікі па літаратурнай працы, горача вітаем, ад усяго сэрца віншуем Вас, найстарэйшага нашага паэта і дзеяча беларускай культуры, з 80-годдзем з дня Вашага нараджэння.*

*У змрочныя часы царскай рэакцыі ўпершыню пачуўся Ваш усхваляваны голас паэта, які клікаў народ на барацьбу за сваё сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне. Вы з'яўляецеся адным з тых беларускіх пісьменнікаў, хто разам з вялікімі нашымі паэтамі Янкам Купалам і Якубам Коласам закладвалі і стваралі новую беларускую літаратуру, прасякнутую народнымі думкамі і пачуццямі. Працуючы на літаратурнай ніве, Вы шмат сіл і здольнасцей аддалі справе народнай асветы. Ваша цудоўнае слова паэта, Вашу вялікую працу народнага настаўніка ведаюць і шануюць працоўныя нашай рэспублікі.*

*Ад усяго сэрца жадаем Вам, дарагі Іван Якаўлевіч, добрага здароўя, бадзёрасці і новых творчых поспехаў на карысць нашай Радзімы.*

# МЕЛОДЫІ ВЯСНЫ

*У гэтыя цёплыя красавіцкія дні на вуліцах, плошчах і ў парках гарадоў рэспублікі, усюды чуваць вясёлы смех дзяцей і іх звонкія радасныя песні. І як хораша, што сёлета ў Беларусі ўпершыню вырашана правесці «Музычную вясну» для піянераў і школьнікаў, для ўсіх маленькіх грамадзян нашай рэспублікі. Гэта выкліча ў іх яшчэ большую цікавасць да багатай класічнай спадчыны і музычна-песеннай творчасці нацыянальных кампазітараў, паспрыяе эстэтычнаму выхаванню падрастаючага пакалення.*

*У Мінску дзіцячую «Музычную вясну» першымі адкрылі Ленінскі і Фрунзенскі райкомы камсамола з удзелам членаў кампазітарскай арганізацыі.*

*У госці да дзяцей прыйшлі кампазітары Я. Цікоцкі, Г. Вагнер, В. Жубінская, музыказнаўца І. Нісневіч, а таксама салісты-выканаўцы. Юным слухачам было цікава даведацца аб тым, што новага напісалі для іх беларускія кампазітары, і тут жа пазнаёміцца з гэтымі музычнымі навінкамі. У прыватнасці, прысутныя пачулі новую песню аб Леніне, створаную Я. Цікоцкім, і песню пра савецкага героя-касманаўта, аўтарам якой з'яўляецца Г. Вагнер.*

*Гэтымі днямі адкрылася «Музычная вясна» і для барысаўскіх школьнікаў. Школа № 9 Барысава гэтай падзеі прысвяціла збор піянерскай дружыны, запрасіўшы на яго дэлегацыі вучняў з усіх гарадскіх школ. Дзеці ўпершыню праслухалі ў выкананні салістак радыё В. Фурс і М. Марозавай песні з новага вакальнага цыкла В. Жубінскай. Сярод іх: «Школьны званок», «Вясновая», «Канькі». Пасля выступалі вучні мясцовай музычнай школы, якія выканалі фартэпіянныя і вакальныя творы Ул. Алоўнікава, Р. Пукста, А. Клумава.*

*У сярэдзіне мая ў беларускай сталіцы адбудзецца вялікае гарадское музычнае свята для дзяцей. У ім прымуць удзел як прафесіянальныя, так і самадзейныя музычныя калектывы. На гэтых урачыстасцях, апрача невялікіх твораў музыкі, прысвечаных жыццю шчаслівага савецкага юнацтва, прагучаць кантата П. Падкавырава «Піянерскі касцёр міру» і новы сімфанічны твор Г. Вагнера— праграмная піянерская сюіта.*

# Паказвае сталічная самадзейнасць

У Тэатры оперы і балета адбыўся заключны канцэрт агляду мастацкай самадзейнасці прадпрыемстваў, будоўляў і ўстаноў Мінска.

Разнастайная і цікавая праграма пачалася выступленнем харавой капэлы Палаца культуры прафсаюзаў пад кіраўніцтвам І. Кліёнскага.

Наогул мастацкія калектывы Палаца культуры прафсаюзаў былі паказаны ў канцэрце даволі шырока. Акрамя сімфанічнага аркестра і харавой капэлы прысутныя цёпла сустрэлі выступленне эстраднага аркестра, ансамбля народных інструментаў і вялікай групы салістаў.

Разнастайна было прадстаўлена ў канцэрце танцавальнае мастацтва. У рэпертуары танцавальных калектываў тонкасуконнага камбіната, Дома культуры трактарнага завода, электрамеханічнага завода, Дома культуры Мінскага аўтазавода, Дома культуры мясцовай прамысловасці ўвайшлі беларуская танцавальная сюіта «Ураджайная», народны танец «Юрачка», «Украінская пляска», румынскі жартоўны танец «Бэтута», «Салдацкая пляска», руская кадрыля.

Жаночы вакальны ансамбль камвольнага камбіната пад кіраўніцтвам Е. Рэутовіча пазнаёміў слухачоў з песняй самадзейнага кампазітара Коньшына «Рэчыцкая-лірычная».

Заключны канцэрт паказаў што за апошні час значна ўзрасло майстэрства ўдзельнікаў самадзейнасці, для якіх мастацтва стала сапраўды другой прафесіяй.

**Г. ЮР'ЕЎ.**

**Не, цяпер ніхто не скажа:**
**— Прападзі ты, доля наша!**
**Глянь у хату, выйдзі ў поле:**
**Сонцам ззяе наша доля.**

**Сяргей ДЗЯРГАЙ.**

